ад кожнаразовае большасьці, уводзячы гэтак у языковыя справы мамэнт барацьбы;

што, наагул, даючы розныя іншыя правы мовам, магчымасьць карыстаньня з іх уставы стаўляюць у залежнасьць ад спэцыяльных вымогаў і падачы дамаганьняў з боку заінтарасаваных асоб, а ў школах—ад падачы і труднага зьбіраньня пасьведчаных подпісаў;

што устаў аб школах абмяжовывае правы на школу ў матчынай мове, калі ў гміне беларускае ці украінскае насяленьне даходзе толькі да 25%, хаця-бы там і была устаноўленая законам лічба 40 дзяцей, жадаючых вучыцца ў роднай мове;

што там, дзе інародная люднасьць пераходзе за 25%, яна, аднак-жа, ня можа мець навукі ў матчынай мове—нават у двуязычнай школе, кабі лічба дзяцей, бацькі каторых хацелі-бы вучыць іх у матчынай мове, не дасягае 40, хоць-бы яна і шмат перавышала лічбу вучашчыхся ў даным райёне польскіх дзяцей;

што устаў пазбаўляе інародную люднасьць (беларускую і украінскую) права на ўласную дзяржаўную сярэднюю школу і ўласную дзяржаўную вучыцельскую сэмінарыю;—

**сход сцьвярджае**:

што пададзеныя праекты языковых уставаў знаходзяцца ў супярэчнасьці з канстытуцыяй, бо праводзяць у законе няроўнасьць правоў грамадзян розных нацыянальнасьцяў;

што карыстаньне з прызнаных за польскімі інапляменнымі грамадзянамі (украінцамі і беларусамі) правоў уставы стаўляюць у залежнасьць ад напружаньня мамэнту барацьбы за іх і агітацыі (зьбіраньня засьведчаных подпісаў, падачы спэцыяльных дамаганьняў і дэкларацыяў), што ня толькі не дапаможа лагоджаньню антаганізмаў і вытварэньню прыязных адносінаў да польскае культуры, але выкліча яшчэ большае абастрэньне крэсавых адносінаў.

Дзеля гэтага сход Павятовага Ўраду „Вызваленьня" і „Людовае Еднасьці" ў Вільні супольна з дэлегатамі з правінцыі зварачаецца да соймавага клюбу „Вызваленьня" і „Людовае Еднасьці" ў Варшаве, а таксама і асабліва да сваіх крэсавых паслоў, з дамаганьнем учыніць самыя энэргічныя крокі, каб дабіцца зьмены пададзеных уставаў у тым кірунку, каб яны маглі стацца запраўды дапамогай дзеля мірнага сужыцьця ўсіх нацыянальнасьцяў паловы зямель Рэчыпаспалітай".

Рэзалюцыя гэтая была прынята яшчэ перад прыняцьцем Соймам „языковых" законаў: яна памечана днём 6-га ліпня г. г. Гэтак выступленьне віленскіх вызваленцаў *напярод выявіла глыбокае разыходжаньне іх з сваей партыяй*: бо-ж іменна партыя „Вызваленьне"—ўжо *пасьля гэтае рэзалюцыі*—сваімі галасамі вырашыла справу прыняцьця Соймам урадавых праектаў, апрацаваных п. Тугуттам! Але гэтага голасу віленцаў варшаўскія вызваленскія верхаводы зусім і ня прынялі пад развагу! Проста, вызваленцам-беларусам партыя сваім учынкам ясна і выразна сказала: „*Мы ўзялі ад вас усё, што нам было трэба, а цяпер нам да вас ніякага дзела няма!*"

Ці адкажуць „Вызваленьню" абаламучаныя беларусы так, як належыць?

Пара, вялікая пара не пазволіць варшаўскім павадыром гэтак ганебна ўжываць вымaненыя ў нашага народу галасы на пагібель гэтаму-ж самаму народу!

**Ст. Мірскі.**

# Яшчэ аб бэлым тэроры.

## Новая антыпольская адозва ў францускай газэце.

Польскія Агенцтвы і прэса вельмі абураюцца на новую адозву ў справе „белага тэроту ў Польшчы", зьмешчаную ў тэй самай францускай газэце „L'Ere Nouvelle", якая наагул узяла на сябе абарону правоў усіх меншасьцяў і недзяржаўных народаў на сьвеце (якая нядаўна таксама заўзята бараніла і палякоў ад немцаў і расейцаў!). Адозва падпісана ад імя украінцаў праф. Лозінскім, ад імя беларусаў — Ластоўскім, ад літвіноў — Вайленісам і паўтарае яшчэ раз усе абвінавачаньні Польшчы ў „белым тэроры" адносна да меншасьцяў.

„Усх. Агенцтва" падае, што хутка мае выйсьці „дзела" нейкага францускага сэнатра Бартэлемі пад загалоўкам „Праўда аб нацыянальных меншасьцях у Польшчы", якое павінна ўжо аканчальна разсеяць усе гэтыя „галаслоўныя плёткі" аб Польшчы. „Дзела" пана Бартэлемі будзе, паводле агенцтва, „карыстацца" ўрадовымі дакумэнтамі...

З гэтага шчырага прызнаньня ясна відаць, што польскі ўрад папросту заказаў гэтае „дзела" пану сэнатару, якога будзе, зразумела, ня толькі надзяляць „дакумэнтамі", але і нечым асабіста для аўтара больш пераконываючым...

Ці не дзеля супрацоўніцтва з панам францускім сэнатарам выехаў у Парыж і. п. Ладноў?... А можа — дзесь там „на курацыі" спаткаюцца абодва яны і з „хворым" панам Тугуттам?!...

# Інтэрпэляцыі Беларускага Пасольскага Клюбу.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў Беларускага Клюбу да п. Міністра ўнутраных спраў у справе **пабітых паліцыяй** Канстантына Крупіцы, Ганны Ярош і іншых жыхараў Казлоўскае гміны, Слонімскага павету.

15 чэрвеня б. г. селянін вёскі Цэхава, Казлоўскае гміны, Слонімскага павету, Канстантын Крупіца, быў на начледзе пры конях на сваей сенажаці. У досьвіткі Крупіца, якому стала сьцюдзена, разлажыў вагонь. У той час пачуў ён, што нехта хутка праяжджаў праз кусты, але хто быў той яздок, пазнаць было цяжка. Праз нейкі час пад'ехалі тры паліцыянты: Рутковскі, Мелянеўскі і Фабінак, а з імі Язэп Верабей, дворны парабак з маёнтку Рандзілаўшчына, і запыталіся ў Крупіцы, хто праяжджаў толькі-што. Калі селянін ня мог даць здавальняючага адказу, паліцыя моцна зьбіла яго, а коні забрала ў двор Рандзілаўшчыну, дзе трымалі іх даўгі час. Паліцыя, зьбіўшы селяніна, павяла яго ў вёску Падвялікае, дзе на вачох шмат каго страшэнна зьбіла Ганну Ярош, Браніславу Скрундзь і Маргарыту Скундзь.

Дзеля вышэй пісанага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра:

1. Ці маніцца ён скончыць урэшце з біцьцём паліцыяй беларускага насяленьня?
2. Ці маніцца пакараць памянёных паліцыянтаў за тое, што яны пабілі жыхараў Казлоўскае гміны, Слонімскага павету?

Варшава, 17 ліпеня 1924 г.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў Беларускага Клюбу да п. Міністра ўнутраных спраў у справе абцяжэньня беларускага насяленьня **прамусовай працай** па папраўцы дарог дзяржаўных і камунальных.

У Беларускі Клюб паступаюць скаргі беларускага насяленьня ў зьвязку з вялікім цяжарам, які яно нясець пры папраўцы дарог, як дзяржаўных, так і камунальных. Загады аб прымусовай працы беларускага сялянства пры папраўцы дарог выдаець звычайна Стараста праз павятовы Соймік. Дзеля таго, што павятовыя саймікі складаюцца на беларускіх землях з абшарнікаў, шляхты і агулам з прадстаўнікоў заможных клясаў, ўвесь цяжар папраўкі дарог кладзецца на плечы беднага сялянства. Гэты прымус, гэтая „новая паншчына" зьяўляецца надзвычайна цяжкой у Вялейскім павеце, дзе сяляне прымушаны правіць дарогі ня толькі на сваей зямлі, але і на зямлі польскіх паноў-абшарнікаў. Сялянства пад прымусам павінна шырыць дарогі, рабіць насыпы, капаць па бакох канавы, карчаваць пні, зьніштажаць кусты, ўрэшце вазіць без канца пясок, а паны-абшарнікі зволньнены ад гэтых абавязкаў.

Беларускі селянін, які маець ледзь 3—5 моргоў, гарыць помстай на паноў, уласьнікаў вялікіх абшараў, бо бачыць, што польскі абшарнік на нашай зямлі пры польскай уладзе, ці, дзякуючы хітрасьці, зусім звальняецца ад абавязкаў папраўкі дарог, ці нясець ледзь адну сотную частку таго, што нясець адна толькі вёска.

Надзвычайна многа крыўд у справе папраўкі дарог на зямлі абшарнікаў Чэховічаў і іншых паспыталі сяляне вёсак: Жукі, Заельнікі, Рабцы, Дварэц, Пляшчаны, Лаўцэвічы ды інш., Хаценчыцкае гміны, Вялейскага павету, дзе іх ужо даўно ганяюць на „дарожны прыгон" пад начальствам урадоўца Балаховіча. Скаргі памянёных вёсак да тутэйшае ўлады не далі ніякіх вынікаў. Ня маючы магчымасьці вытрымаць навалы працы па папраўцы дарог на зямлі абшарнікаў у межах сваей гміны, сяляне зьвярнуліся ўрэшце ў Беларускі Клюб, просячы ратунку аб „дарожнага прыгону на панскай зямлі".

Дзеля вышэй пісанага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра:

1. Ці ведама яму аб гэтым?
2. Ці маніцца ён учыніць крокі, каб павіннасьць папраўкі дарог раскладалася паміж сялянствам і панам-абшарнікам прапорцыянальна да колькасьці зямлі, якую яны маюць?

Варшава, 11 ліпеня 1924 г.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў Беларускага Клюбу да п. Міністра ўнутраных спраў у справе **рэквізыцыі падводаў** на беларускіх абшарах.

Сусьветная вайна найбольш адбілася на беларускім сялянстве на абшарах б. расейскае імпэрыі. Апрача зьнішчэньня будынкаў, рэквізыцыі жывога і мёртвага інвэнтара, беларускі селянін павінен быў нясьці разам з войскам цяжар вайсковага жыцьця, дастаўляючы арміі падводы і аддаючы ёй сваю працу.

Ня гледзячы на тое, што вайна скончылася яшчэ ў 1920 годзе, беларускае сялянства дагэтуль ня можа вызваліцца ад вайсковага цяжару. Ці ў дзень, ці ў ночы, па кожным выкліку паліцыі павінен ён ехаць з падводамі, а зьнішэньні вайны вамагаюць шмат працы дзеля адбудовы сваей гаспадаркі, палепшаньня земляробства, павялічэньня інвэнтара. Павіннасьці пастаўкі падводаў падлягаець толькі беларускае насяленьне, тады як абшарнікі-палякі гэтага цяжару зусім не нясуць. Здавалася бы, што прымус пастаўкі падводаў, паколькі ён яшчэ існуе, павінен роўна абцяжаць як вялікага земскага ўласьніка, так і сялянства. Аднак, адсутнасьць дэмакратычных самаўрадаў на беларускіх абшарах, дзе войтамі бываюць, калі не самі паны абшарнікі, дык іх прыслужнікі, якія пастаўлены павятовым Старостай, вядзець да таго, што выключна беларускае сялянства абцяжона прымусам пастаўкі падводаў.

Прыкладам, войт Сіняўскае гміны, Нясьвіскага павету, за тое, што сяляне вёскі Клапыцічы адмовіліся плаціць на утрыманьне пры гміне сталай стойкі падатак ад інвэнтара, а не ад колькасьці зямлі, загазаў душыць сялян памянёнае вёскі падводнай павіннасьцю.

І запраўды, за два месяцы ён вызначыў з вёскі Клапыцічы некалькі дзесяткаў падводаў. Калі прыняць пад увагу, што ў гміне ёсьць каля 30 вёсак і 30 двароў, дык цяжар, які нясуць сяляне памянёнае вёскі, прадстаўляецца вельмі паважным.

Рада Сіняўскае гміны пад націскам абшарнікаў і ўлады пастанавіла браць на ўтрыманьне пошты ад 1 каня—па 3 пуды аўса і ад 1 дзесяціны зямлі па 9 фун. аўса. Адсюль выходзіць, што, калі абшарнік мае 1.000 десяцінаў зямлі і 10 коняў, дык ён заплаціць 255 пуд. аўса, а вёска, якая мае 300 дзесяц. зямлі і 80 коняў, заплаціць 308 пуд. аўса, г. ё., што сялянства, маючы зямлі ў тры разы меней. павінна плаціць на ўтрыманьне пошты больш за абшарніка.

Ува ўсіх гмінах на беларускіх абшарах, дзе ўрадуюць асобы, пастаўленыя Старостамі, справа рэквізыцыі падводаў стаіць гэтак: сяляне вёсак Заельнікі, Жукі, Рабцы, Дварэц, Пляшчаны і інш., Хаценчыцкае гміны, Вялейскага павету, так узвыш меры абцяжоны прымусам пастаўкі падводаў, што ніякім чынам ня могуць управіцца з гэтым цяжарам.

Дзеля вышэй пісанага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра:

1. Ці вядома яму аб вышэй пісаным?
2. Ці маніцца ён адмяніць на беларускіх абшарах прымус пастаўкі сялянствам падводаў для перавозкі ўрадоўцаў, іх маемасьці, а так сама дапамагаць ім, урадоўцам, у гаспадарцы — дарма вазіць ім дровы, сена і інш.?
3. Ці маніцца ён да часу адмены гэтага прымусу загадаць падпарадкаванай уладзе абцяжаць вялікіх абшарнікаў павіннасьцяй утрыманьня пошты роўна, як і сялянства, прапорцыянальна да колькасьці зямлі, якую яны маюць?

Варшава, 15 ліпеня 1924 г.

# Палітычныя падзеі.

### Яшчэ да бясьпечнасьці на „Усх. Крэсах".

На паседжаньні палітычнага камітэту Рады Міністраў ізноў разглядалася справа бясьпечнасьці ўсходніх граніцаў Польшчы. Пастаноўлена—да замірэньня—даць яшчэ шырэйшыя паўнамоцтвы ваенным уладам.

### Нота польскага ўраду да СССР у справе нападу на Стоўпцы.

Новы польскі міністар загран. спраў п. Скшыньскі, паслаў ураду СССР — праз яго пасла ў Варшаве — вельмі абшырную ноту, у якой, дакладна апісаўшы, са слоў сьведкаў і паказаньняў захопленых учасьнікаў нападу на Стоўпцы—ўвесь ход апошняга, п. Скшыньскі „зварачае ўвагу" СССР на тую ненармальную сітуацыю, якая пачынае хранічна нарушаць мір на польска-радавай граніцы, і спадзяецца, што ўрад СССР зразумее неабходнасьць палажыць канец тым „пляновым, арганізаваным, старанна рыхтаваным, тэхнічна абстаўленым, часта паўтараючымся нападам, якія павінны ствараць на граніцы палажэньне, рэзка супярэчнае з імкненьнем да ўсталеньня добрых, папраўных і мірных суседзкіх адносінаў"...

### Бандыты пад Спалай.

8 жніўня ў начы ў 2 вярстах ад Спалы, дзе цяпер жыве Прэзыдэнт Рэспублікі, на Тамашоўскім шосэ бандыты забілі двух людзей. Праяжджаўшыя былі сьпярша абсыпаны стрэламі з лесу, які ідзе па абодва бакі шосэ, пасьля затрыманы, абрабаваны і забіты.

На месца здарэньня пасьпешна выехала вышэйшая паліцыя, але схапіць бандытаў не ўдалося. У зьвязку з выпадкам выкліканы з водпуску камэндант паліцыі Варшаўскага ваяводзтва.

### Канец забастоўкі ў Дамброве.

Як падае Усходняе Агенцтва, у Дамброўскім абшары ўсе работнікі вярнуліся да працы.

### Да сьлёнскай забастоўкі.

У Варшаве ў міністэрстве працы пад старшынствам мін. Дароўскага адбылася нарада прадстаўнікоў прамыслоўцаў і работнікаў Горн. Сьлёнску. Ні да якіх рэзультатаў не дайшло, бо, як падае ПАТ, дэлегацыя прамыслоўцаў ...ня мела паўнамоцтваў!

Дзіўна толькі, што п. міністар згадзіўся старшынстваваць у гэткай „непаўнамоцнай" нарадзе.

### „Рэдакцыя камуністычных адозваў".

У ноч на 7 жніўня арыштаваны ў Варшаве „рэдакцыйны камітэт камуністычных адозваў". Паліцыя ўвайшла ў памешканьне ў часе працы рэдакцыі. Афіцыяльна памешканьне мела фірму „Эканамічны Інфарматар". Арыштаваны 4 рэдактары і адзін разсыльны. Забраны адозвы і справаздачы з 5 камуністычнага зьезду.

## Над гробам забітага камуніста.

„Kur. Por." падае цікавыя весткі аб хаўтурох забітага ў Варшаве на пэпээсаўскім мітынгу камуніста Бялага. На хаўтурох было каля 400 асоб. Газэта падае, што Бялы забіты быццам „ад кулі сваіх партыйных таварышоў, якая мела забіць паліцэйскага". Хаўтуры адбыліся без ксяндза, бо гэтак зажадала жонка нябошчыка. Па волі яе-ж Бялы пахаваны абок камуністаў, забітых у часе дэманстрацыі ў 1920 г. Паліцыя, згадзіўшыся на гэтыя жаданьні, рашуча адмовіла адлажыць хаўтуры, як гэтага дамагалася жонка,—каб даць час паведаміць усіх крэўных і знаёмых.—(Відаць баяліся вялікай дэманстрацыі). На магіле забітага ад розных арганізацыяў камуністычнай партыі было зложана шмат вянкоў з „антыпанствовымі" надпісамі. Газэта падкрэсьлівае, што адзін з вянкоў быў зложаны дэлегацыяй украінскага соймавага клюбу, а пасол Пашчук сказаў прамову.

Калі жонка хацела зьняць усе гэтыя ўстужкі з вянкоў, каб схаваць у сябе, дык паліцыя адабрала іх усе, але абяцала, што, сканфіскаваўшы „антыдзяржаўныя", рэшту аддасьць назад.

У Варшаве адбыліся ўжо два мітынгі ў памяць забітага камуніста Бялага,—на адным было каля 250 работнікаў, ва другім—на магілках—200.

## Аб'яднаньне „хлопскага" руху ў Польшчы.

У „Gaz. Lud." пас. Домбскі зьмясьціў артыкул, у якім заклікае польскае сялянства да аб'яднаньня.

Польскі селянін дорага плаціць сваей палітычнай і гаспадарчай нядоляй і няволяй за тое, што яго павадыры разьбіваюць агульна-сялянскі рух. Дзеля таго справу аб'яднаньня селянін павінен сам узяць у свае рукі і моцным націскам зьнізу змусіць сваіх павадыроў да скаардынаваньня сілаў.

У выніку гэтага артыкулу пачалі рабіцца крокі да аб'яднаньня „Хлопскага Зьвязку" з „Аб'яднанай Польскай Людовай Партыяй".

## Банкруцтва Ляснога Банку.

Збанкрутаваў Варшаўскі Лясны Банк. Гэта ўжо трэцяе буйнае банкруцтва ў выніку гаспадарчага крызісу ў Польшчы.

## Радавае консульства ў Данцыгу.

Нямецкая прэса ў Данцыгу падае, што ў хуткім часе ў „Вольным Месьце Гданску" будзе адчынена расейскае консульства — на моцы кансулярнай умовы паміж Польшчай і СССР.

## Ангельскі ўрад гарантаваў пазыку С.С.Р.Р.

Весткі, падаваныя агенцтвам і прэсай аб зьмесьце падпісанага Англіяй і С.С.Р.Р. трактату,—вельмі спрэчныя. Адно, здаецца, можна лічыць пэўным, што ангельскі ўрад гарантаваў для С.С.Р.Р. пазыку ў Англіі.

## Дагавор паміж Францыяй і СССР.

У хуткім часе і францускі ўрад мае падпісаць торговы дагавор з СССР, — так сама, як і ангельскі— бяз уступнага прызнаньня Расеяй царскіх даўгоў.

## Чычэрын вярнуўся да працы.

Афіцыяльна наказуюць з Масквы, што Чычэрын паздаравеў і вярнуўся да ўрадаваньня.

## Камуністы ў Румыніі.

Пасьля раскрыцьця „камуністычнай змовы" ў Бэсарабіі пачаліся новыя арышты. Арэштаваны яшчэ 12 асоб, у тым ліку 4 урадоўцы. Канфіскаваны склады аружжа, якія знойдзены пад Кішынёвам і Акерманам.

## Да баўгарскай мабілізацыі.

Баўгарскі ўрад аб'яўляе афіцыяльна, што ўсе весткі аб быццам-то абвешчанай у краі мабілізацыі — няпраўдзівыя (?!).

## Экспозэ новага ўраду Югаславіі.

Новы прэм'ер Югаславіі дэмакрат Давідовіч прачытаў у Скупшчыне (Сойме) дэкларацыю габінэту, у якой заявіў, што новы ўрад будзе сьцісла парляманцкі (бо Пашыч, наадварот, правіў апіраючыся на меньшасьць сэрбскіх нацыяналістаў у парляманце), а так сама будзе імкнуцца да збратаньня ў супольным сужыцьці і працы сэрбаў, харватаў і славенцаў. (Як ведама, скінуты прэм. Пашыч трымаўся, апіраючыся на караля, якраз тым, што завёў „белы тэрор" для харвацкай і славенскай меншасьці).

## Паразуменьне паміж Турцыяй і Англіяй.

Прадстаўнік Турцыі ў Лёндоне дайшоў да паразуменьня з англійскім урадам у справе Мосулю, (захопленага англійцамі ў часе вайны). Гэта — найбагацейшы газай турэцкі абшар у Мэсапатаміі.

## Ліквідацыя пэрска-амэрыканскага канфлікту.

Амэрыканскі дэпартамант загран. спраў абвяшчае, што канфлікт паміж Амэрыкай і Пэрсіяй памысна зьліквідаваны.

*Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаушы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнау прауду аб жыцьці свайго народу і даведауся, што робіцца на сьвеце!*

# Лёндонская Канфэрэнцыя:

## Юз у Бэрліне.

Амэрыканскі міністар Юз, як быў у Бэрліне, заявіў, што Лёндонская Канфэрэнцыя — апошняя стаўка Амэрыкі на Нямеччыну: калі немцы не скарыстаюць з прыпадку і сумленна ня выпаўняць значна палягчэўшых цяпер сваіх абязацельстваў, дык няхай ужо больш ня лічуць на тое, што Амэрыка прыйдзе яшчэ ім на помач.

## Дыскусія над нямецкім мэмарандумам.

Пачалася дыскусія Канфэрэнцыі з учасьцем нямецкай дэлегацыі над узгадненьнем мэмарыялу апошняй з рэзалюцыямі саюзьнікаў.

Экспэрты, якія разглядалі гэты мэмарыял, заявілі, што такое узгадненьне не прадстаўляе непераможнай труднасьці. Нямецкая дэлегацыя патрэбавала больш сьціслага азначэньня формулы сканстатаваньня факту „відавочнага ўхіленьня" немцаў ад выпаўненьня абязацельстваў, дамагаючыся сцьверджаньня факту праз арбітра — судзьдзю з Трыбуналу Справядлівасьці ў Гаазе. Нямецкая дэлегацыя рашуча адмовілася разумець агульную амністыю так, што нямецкі ўрад павінен запясьпечыць бязкарнасьць усіх тых нямецкіх грамадзян, якія вінаваты ў здрадзе Нямецкай Рэспублікі праз свае „незалежніцкія" авантуры ў Надрэніі і ў Палятынаце, — як гэтага дамагалася Францыя, сама-ж праважаваўшая ўсе гэтыя авантуры. Нямецкая дэлегацыя адмовілася даць дзяржаўную гарантыю тым прыватным дастаўкам у натуры (таварамі), якія прадбачыць плян Доўса, апрача дакладна пералічаных у Вэрсальскім Трактаце. Нямецкая дэлегацыя зажадала для Нямеччыны прадстаўніцтва ў тым трыбунале арбітражу, які складаецца з 3 сябраў (у тым ліку — адзін амэрыканец) і які мае судзіць, як апошняя інстанцыя, „злую волю" немцаў у выкананьні абязацельстваў.

## „Прыватная" нарада Эрыо, Тэніса і Штрэзэмана

Адбылася прыватная сакрэтная нарада трох гэтых міністраў у справе вайсковай эвакуацыі акупаваных тэрыторыяў. Пішуць, што з прычыны зложнасьці і труднасьці вырашэньня ўсіх гэтых справаў, Канфэрэнцыя ня скончыцца ў тэрміне, які прадбачыў Мак-Дональд. Усе гэтыя справы аддадзены „Радзе 14". Усе іншыя спрацівы немцаў, датычучыя „эканамічнай эвакуацыі" Нямеччыны, будуць разглядацца асобнай камісіяй саюзьнікаў.

## Нарада ген. Ноле з Мак-Дональдам.

Францускі ваенны міністар ген. Ноле на канфэрэнцыі з Мак-Дональдам высьветліў апошнюю францускі пункт гледжаньня на вайсковую эвакуацыю Нямеччыны.

Францыя, як і заўсёды раней, лічыць справу ваеннай эвакуацыі акупаваных абшараў выключна міжсаюзнай справай. Дзеля таго яна і не пастаўлена ў праграму Канфэрэнцыі, а разглядаецца цяпер „прыватна".

Францыя згодзіцца на паступовую эвакуацыю толькі тады, калі Нямеччына дасьць яскравыя довады сваей „добрай волі" ў выкананьні адшкадаваньняў, а таксама ў справе свайго разбраеньня ня будзе ставіць перашкодаў для працы камісіі ваеннага кантролю.

Як відаць, казка пра белага бычка пачынаецца ізноў... Дзіва, што ПАТ тут-жа яшчэ раз дадае, што „мала падобна да праўды, каб Канфэрэнцыя скончылася ў гэтым тыдні".

## Ад'езд францускай дэлегацыі з Лёндону.

Сэнсацыю ў Лёндоне зрабіў раптоўны ад'езд, ці адлёт (бо на аэроплане) прэм'ера Эрыо разам з сваімі міністрамі з Лёндону да Парыжу. Пішуць, што гэта ня трэба разумець, як зрыў Канфэрэнцыі. Справа ў тым, што, ня гледзячы на вялікія ўступкі францускай дэлегацыі з боку Англіі і пакорнасьць немцаў, Канфэрэнцыя ўсё-ж-такі папала ў нейкае блуднае кола, з якога ня можа выйсьці, каб дайсьці да канца... Наскольккі можна зразумець, амэрыканскія банкіры, быццам нездаволеныя англійскім урадам, гарантаваўшым СССР пазыку ў Англіі, ўзялі назад абяцаньне даць пазыку Нямечныне. Нямеччына праз сваю дэлегацыю слушна заявіла, што пастанова яе парляманту аб прыняцьці пляну Доўса ўвойдзе ў сілу толькі пасьля атрыманьня пазыкі, як гэта прадбачыць гэты самы плян, і рашуча адмовілася ад заплаты не прадбачаных плянам „уступных" 80 мільёнаў залатых марак, якія трэбуе Францыя за тое, што... плян Доўса пачне праводзіцца ў жыцьцё на 10 дзён раней—не 15 кастрычніка, а 5.

А калі Мак-Дональд, каб „ўратаваць" Канфэрэнцыю, абяцаў, што пазыку Нямеччыне ён зробіць у Англіі, тады аказалася, што няма згоды ўжо сярод... францускай дэлегацыі.

Як можна было прадбачыць, галоўным „яблыкам нязгоды" сталася тут справа ваеннай эвакуацыі Руры. Эрыо на Канфэрэнцыі згадзіўся на гаспадарчую эвакуацыю ад 1-га студзеня 1925 г., а на ваенную — ад вясны таго-ж году. Але ваенны міністар яго-ж ураду, ген. Ноле, рашуча запратэставаў проці замены акупацыі на плян Доўса і патрэбаваў за зьняцьце акупацыі ізноў тых самых „гарантыяў бясьпечнасьці Францыі". за якія ўжо колькі гадоў ішла спрэчка паміж Францыяй і Англіяй, і якія абодва ўрады ўмовіліся ня зьвязываць са справаю правядзеньня пляну Доўса.

І тут ізноў пачынаецца „казка пра белага бычка".

Другі міністар ураду Эрыо—Клемантэль (фінансы) заявіў, што немагчыма гаспадарчая эвакуацыя Руры без урэгуляваньня міжсаюзных даўгоў...

У выніку ўсяго гэтага — старшыня дэлегацыі і прэм'ер габінэту сам ня ведае цяпер, што рабіць, баючыся магутнай апазіцыі нацыяналістаў...

І вось, п. Эрыо паляцеў у Парыж парадзіцца, што рабіць?

# ХРОНІКА.

**Абавязак бацькоў.** Напамінаем, што ўжо 1-га верасьня пачынаюцца заняткі ў беларускіх гімназіях. Бацькі! Памятайце, што ваш няўхільны абавязак даць сваім дзецям навуку ў сваей роднай школе! Сьпяшыце паслаць просьбы аб прыняцьці дзетак у беларускія гімназіі!

**Беларуская юрыдычная тэрміналёгія.** У сувязі з прыняцьцем Соймам і Сэнатам новых языковых законаў польская ўрадовая ўлада дагэтуль не пачала ніякіх крокаў, каб законы гэныя запраўды можна было правясьці ў жыцьцё. Нічога ня робіцца ані дзеля падгатоўкі вучыцялёў, якія маглі-бы выкладаць пабеларуску, ані дзеля набору штату ўрадоўцаў, ведаючых беларускую мову.

Затое група нашых віленскіх юрыстаў узяла на сябе ініцыятыву дзеля вытварэньня фактычнае магчымасьці правядзеньня гэных законаў у судзе. Гэтая група, карыстаючыся старой, вельмі багатай юрыдычнай тэрміналёгіяй, якую з беларускае мовы (—з Літоўскага Статуту) пераняли ў сваім часе палякі, апрацовывае беларускую юрыдычную тэрміналёгію для сучаснага ўжытку.

Багатыя матар'ялы даставіла Беларускае Навуковае Таварыства з сваей бібліатэкі.

**Напады пад Вільняй.** Пад самай Вільняй сыстэматычна ў кожын чацьвер адбываюцца на публічных дарогах бандыцкія напады на купцоў, якія едуць з Вільні ў свае мястэчкі з таварамі. Як піша „Słowo", заўсёды тут выступаюць два аружныя бандыты, якія заўсёды пасьля рабунку бязсьледна прападаюць. Бандыты адкрыта ходзяць па дарогах з карабінамі і рэвальвэрамі. Апошняя „гастроль" іх была ў апошні чацьвер, 7 жніўня, на Рудамінскім тракце, у 12 кілямэтрах ад Вільні. Ці ня будзе й тут нешта падобнае да таго, што было ў Вялейцы і ў Сьвянцяншчыне?!

З Алькенік наказуюць, што ў пятніцу, 8 жніўня, пад Алькенікамі 4 бандыты напалі на лясьніка Яна Сіля, забралі ў яго грошы і крэпка пабілі.

8 жніўня паліцыя прыпадкам заарыштавала некалькі бандытаў у Вялейшчыне, якія маніліся напасьці на м. Куранец.

# Весткі з вёскі.

**М. Моўчадзь.** Слонімскага пав.

Нашае мястэчка, хаця і знаходзіцца ў якіх-небудзь чатырох кілямэтрах ад чыгункавай станцыі, аднак насяленьне жывець у поўнай несьвядомасьці аб тым, што робіцца на белым сьвеце, асабліва-ж у Польшчы,—з мамэнту выбараў у Сойм, калі да нас прыяжджалі прадстаўнікі розных партый, якія салодкімі абяцанкамі аб розных дапамогах нам, беларусам, стараліся атрымаць сялянскія галасы. І праўда: асабліва „Вызваленьню" ўдалося абмануць нашых мужыкоў. Але з тае пары праходзяць ужо два гады, а мы ўсё чакаем паляпшэньня нашага жыцьця, а яно, як на зло, ня лепшае, а ўсё горшае, так што пад час і жыць становіцца ня міла, нідзе ні ад каго радаснага слова нельга пачуць.

Толькі сяляне, прыежджыя на кірмаш спад Слоніма, гаварылі, што „ў Слонім прыяжджалі паслы Беларускія, якія расказалі ім усё, што дзе робіцца, і што нам трэба рабіць, дый шмат чаго цікавага для сялян".—„Вельмі жаль,—гавораць нашы сяляне,—што мы аб гэтым ня ведалі, а то зьезьдзілі-б, хоць і далёка".

Ну, нічога не парадзіш, можа і ў нас будзе гэткае сьвята, што і да нас прыедуць.

Просім цераз газэту „Сын Беларуса" нашых паслоў, можа будуць калі праяжджаць з Вільні ў Баранавічы, дык па дарозе каб і да нас заглянулі, толькі каб як раней даведацца аб гэтым, што-б можна было апавесьціць акружаючыя вёскі. Добра былоб, каб папала ў сераду, бо тады ў нас кірмаш і народу многа зьбіраецца. Толькі штоб прыехалі, рады будзем!

**Л. Віпьнічак.**

### Панская чарка гарэлкі.

*Галянова, пад Маладэчнай*

Працуем мы ў маёнтку Галянова, каля Маладэчны. І вось пра ўсю нашу працу магу толькі сказаць адно: што на кожным кроку—насьмешка, фальш і абман. Не запісываюць нам усіх дзён працы,—гэта раз; другое—бадай штодзень перарабляем лішнія мінуты на карысьць паноў, а трэцяе і самае найгоршае — гэта тое, што ўмовішся даставаць столькі, а дастаеш менш,—скажам, калі ўмовіўся 3 зл., дык атрымаеш 2 злотых. Але адчуваецца такая патрэба зарабіць гэты грош, дык і мусіш пхнуцца і працаваць — перабівацца з хлеба на квас.

Вось ужо блізка з месяц часу прайшло, як камісія аглядала нашу працу, і інжэнер даў усім рабочым гарэлкі барыша, — як ён казаў. Падзел „барыша" быў гэткі: „любімцам"—на 4 душы бутэлька і 2 кіляграмы хлеба, а звычайнаму беларусу ці іншаму—на 7 душ бутэлька і 1/2 лілягр. хлеба.

Але йшчэ гэта нічога: ведама, як у паноў,—усё папанску разьлічана. Але за гэты выпіты „барыш" прышлося ўсім рабочым працаваць лішніх поўгадзіны. Ну, дык і выйшла, што пілі гарэлку, зробленую сваім мазалём, толькі з „панскіх белых лапаў".

Многа хто ў нас платы недапалучыў, а хто і за дадатковую работу не запісаны. А паспытайся, гдзе-ж тут дабіцца праўды,—дык зараз прыстрашаюць: „а паліцыя на што?" Над гэтым мы і задумаемся...

**Рабочы з Галянова.**

